# Каля Рэчкі



Вербы рэчку атуляюць,
Тут прывабны халадок.
Рыбкі плаваюць, гуляюць,
На вадзе застыў плывок.

Пад вярбою дзед Янук,
У яго дрыжыць рука:
Прычапіў жыўца на крук,
Каб прывабіць шчупака.

Шнур закінуў. Сеў, чакае.
Раптам плотка выплывае.
Заблішчала, мільганула,
Зграбна хвосцікам вільнула.

Паглядзела на жыўца,
Збоку, спераду, з канца;
Паглядзела як на дзіва
І адскочыла пужліва.

А тым часам з-за кала,
Дзе сядзеў вусаты рак,
Наўздагон, нібы страла,
К плотцы кінуўся шчупак...
Гэтай плоткі яму мала,
Ён жыруе без канца.
Есць шчупак, што ні папала.
Вось убачыў ён жыўца.

І без жаднай асцярогі
Ён у рот яго схапіў.
Дзед устаў, сагнуўшы ногі,
Шнур за човен зачапіў,
Шнур дрыжыць, напяўся туга
Дзед не чуе сваіх рук:
„Годзе,—кажа,—валацуга,
Зараз трапіў ты на крук!“

Дзяткор БАНДУРАЎ ВАСІЛЬ
Апрацоўка Я. ГЕРАСІМОВІЧА



АЛЕКСЕЙ МАКСІМАВІЧ ГОРКІ З СВАІМІ ЎНУКАМІ (Фото 1932 г.)




# ВЕРАБЕЙЧЫК



М. ГОРКІ

У вераб'еў зусім так-жа, як у людзей, дарослыя вераб'і і вераб'іхі—птушкі нудныя і аб усім гавораць, як у кніжках напісана, а моладзь жыве сваім розумам.

Жыў быў жоўтароты верабей, звалі яго Пудзік, а жыў ён над акенцам лазні, за верхняй ліштваю, у цёплым гняздзе з паклі, махавінак і іншых мяккіх матэрыялаў. Лятаць ён яшчэ не спрабаваў, але ўжо крылямі махаў і ўсё выглядваў з гнязда.

— Што, што?—пыталася ў яго вераб'іха-маці.

Ён патрэсваў крылямі і, гледзячы на зямлю, чырыкаў:

— Праз меру чорная, праз меру!

Прылятаў бацька, прыносіў мошак Пудзіку і хваліўся:

— Чыў ці я!

Маці-вераб'іха падбадзёрвала яго:

— Чыў, чыў!

А Пудзік глытаў мошак і думаў:

— Чым чваняцца—чарвяка з ножкамі далі—дзіва!

І ўсё высоўваўся з гнязда, усё разглядваў.

— Сынок, сынок,—непакоілася маці,—глядзі чабурыхнешся.

— Чым? Чым?—пытаўся Пудзік.

— Ды не чым, а ўпадзеш на зямлю. Кот—чык! і з'есць,—тлумачыў бацька, адлятаючы на паляванне.

Так усё і ішло, а крыльні расці не спяшаліся.

Падзьмуў аднаго разу вецер. Пудзік пытаецца:

— Што? што?

— Вецер дзьме на цябе, чырык! і скіне на зямлю кату,—растлумачыла маці.

— А зачым дрэвы хістаюцца?—няхай перастануць, тады ветру не будзе.

Паспрабавала маці растлумачыць, што гэта не так, але ён не паверыў—ён любіў тлумачыць усё па-свойму. Ён яшчэ не ведаў што маме не верыць—гэта дрэнна скончыцца. Ён сядзеў ля самага краю гнязда і на ўсё горла спяваў. Спяваў, спяваў ды і валіўся з гнязда, а вераб'іха за ім, а кот рыжы зялёныя вочы, тут як тут. Напалохаўся Пудзік, растапырыў крыллі, хістаецца на шэранькіх ножках і чырыкае:

— Гонар маю, маю гонар!

А вераб'іха адштурхоўвае яго ў бок, пер'і ў яе дубка ўсталі, страшная, смелая, дзюбу раскрыла, у вочы кату трапляе.

— Прэч! прэч! Ляці, Пудзік, ляці на акно, ляці...

Страх прыўзняў з зямлі верабейчыка, ён падскочыў, замахаў крыллямі—раз! раз! і на акне! Тут мама падляцела без хваста, але ў вялікай радасці, села побач з ім, дзеўбанула яго ў патыліцу і кажа:

— Што? што?

— Ну што-ж!—сказаў Пудзік,—усяму адразу не навучышся.

А кот сядзіць на зямлі, ачышчаючы з лапы вераб'іхіны пер'і, глядзіць на іх—рыжы, зялёныя вочы, і з жалем мяўкае:

— Мя-а-канькі такі верабейчык, нібы мышка.

І ўсё скончылася добра, калі забыцца аб тым, што мама асталася без хваста.



# УДОДАВА ГНЯЗДО



Апавяданне П. ЛЕВАНОВІЧА

Малюнкі Г. ЗМУДЗІНСКАГА

Кірылка надзвычай цікавіўся птушкамі. Ён сабраў цэлую калекцыю вядомых птушак, зрабіў некалькі чучалаў і вельмі ганарыўся імі.

Неяк раз Кірылка асачыў у лесе гняздо ўдодаў. Вось і надумаўся ён злавіць гэтую птушку. Удод птушка прыгожая з доўгім, нібы грэбень, чубам. Яна любіць крычаць у лесе, і крык яе падобны на свіст ветру ў пустой бутэльцы.

Гу-гу... Гу-гу—гу-гу.

Выбраў Кірылка аднойчы ціхі адвячорак і пайшоў з сваім таварышом Янкам лавіць удода.

Хлопцы ішлі моўчкі, быццам паспрачаліся між сабой. Яны раз-по-разу паглядалі на чорную сцяну лесу, што набліжалася спераду. З жыта фуркнула перапёлка і засвістала на ўсё поле: фюць палоць... фюць палоць...

Янка сказаў паціху:

— Ты, Кірылка, бачыў перапёлку?

Кірылка адказаў:

— Чую заўсёды, як крычыць, а бачыць не даводзілося.

— Эх ты,—глянуў звысака на Кірылку яго таварыш.—Я дык усіх птушак бачыў. Нават афрыканскага „сакратара".

Кірылка шустра кінуў погляд на таварыша і з цікавасцю запытаў:

— Афрыканскі „сакратар"—хто ён такі?... Дзе ты бачыў яго?..

Янка зацікавіў Кірылку сваім „сакратаром". Ён помніў гэтую птушку такой высокай, як наш бусел, з доўгай шыяй, а на галаве невялікі жмуток пер'я.

— А дзе-ж ты, Янка, бачыў яго?—не пераставаў цікавіцца Кірылка.

Янка замяўся.

— Дзе? Я чытаў у кнізе...

Мабыць, гутарка працягвалася-б і далей, каб не Кірылка. Ён азірнуўся і на вуха шапнуў Янку:

— Зараз голасу не падавай. Дух затаі. Мы ідзем на гняздо. Удод—хітрая птушка.

Таварышы ўваходзілі ў лес. Цёплая вільготная трава казытала падэшвы ног, ад чаго рабілася прыемна і весела. Рыжыя камары звінелі каля самага вуха. Недзе да-



лёка крычалі варaняты, спрабуючы свае галасы. У траве, густой і невялікай, гойсалі і цвіркалі конікі. Па абодвух баках сцежкі стаялі дубы і асіны. З аднаго дуба зляцела нейкая птушка і крыху напалохала хлапцоў. Янка пачынаў непакоіцца.

— Яшчэ далёка?—пытаўся ён.

— Маўчы, кажу.

Раптам Кірылка прыпыніўся.

— Чакай, а я пайду.

Наперадзе чарнеўся высокі дубовы пень. У гэтым пні знаходзілася гняздо. Кірылка добра прыкмеціў, з якога боку заходзіць, каб не палохаць птушку. Ён паступова перастаўляе ногі, выбіраючы мяккую траву. Ідзе Кірылка не спяшаючыся, быццам пераходзіць кладку з цвікамі. Адзін шаг, другі. У Янкі ўжо цярплівасці няма. Ён спрабуе лічыць шагі Кірылкі, і збіваецца.

— Сюды, Янка... сюды! – паклікаў Кірылка.

Кірылка стаяў ля пня і трымаў абедзвюма рукамі шапку. Пад шапкай знаходзілася дуплё, у якім і было тое гняздо. Ад пня несла непрыемным пахам, і ад гэтага казытала ў носе.

— Садзі сюды руку, ды хутчэй,—кажа Кірылка.

Янка ўсадзіў руку і боязна павярнуў галаву на Кірылку. Яны глядзелі адзін на аднаго. У Янкі падняліся павекі, а вочы заіскрыліся агеньчыкам.

— Ну, вымай, чаго глядзіш,—злуе Кірылка.

Якое было здзіўленне ў хлапцоў, калі замест маленькай птушкі з доўгім хвастом, Янка дастаў... наган.

Хлопцы напалохаліся.

— Бяжэм дадому,—шэпча Янка.

Але што рабіць з наганам? Можа яго пакінуць тут, у гняздзе? Не,—парашылі яны нарэшце—лепш занесці яго калгаснаму вартаўніку Анупрэю. Яму ён спатрэбіцца. Забыўшыся пра ўдода, хлопцы шпарка пабеглі дадому.



Каля вёскі іх стрэў старшыня калгаса дзядзька Кірэй. Ён быў добры дзядзька і заўсёды любіў жартаваць з хлапцаў. Дзядзька Кірэй надта здзівіўся, калі ўбачыў наган у Янкі.

— Каго гэта ты страляць будзеш?—спыніў ён хлапцоў.



Кірылка ахвотна расказаў старшыні пра гняздо ўдодаў і як яны знайшлі там гэты наган.

— А хто яго схаваў, мы не ведаем,— закончыў Кірылка.

Дзядзька Кірэй пагладзіў па галаве Кірылку і засмяяўся. Потым узяў наган у Янкі, крутнуў барабан, асцярожна агледзеў яго і цмокнуў хлопцам:

— А я ведаю, хто схаваў. Толькі нікому ні слова пра наган...

Потым дзядзька Кірэй доўга і дакладна распытваў, дзе і ў якім месцы знаходзіцца ўдодава гняздо.

Хлопцы аб усім расказалі і пайшлі дамоў.

Назаўтра Кірылка разбудзіў Янку.

— Уставай, Янка, пойдзем гуляць.

Янка спрасонку цёр павекі і запытаўся:

— Можа зноў лавіць удодаў?

Хлопцы выйшлі на вуліцу. Па вуліцы з боку лесу ішоў Кірэй і вартаўнік Анупрэй. Наперадзе іх, схіліўшы галаву, шагаў незнаёмы чалавек, апрануты ў кароткі пінжак. Хлапцоў зацікавіў незнаёмы. Старшыня калгаса параўняўся з імі і запытаў:

— Ну, хлопцы, дык вы і не злавілі ўдода? А мы вось злавілі. Бачылі яго?

Незнаёмы чалавек кашлянуў і скоса глянуў на Янку. Янка ўбачыў звярыны позірк вачэй і крыху падаўся назад.

А праз дзень ва ўсёй аколіцы стала вядома, што наган і шмат іншых рэчаў былі схаваны сумысля. Старшыня калгаса здагадаўся аб гэтым і з вартаўніком Анупрэем пайшлі ўночы да ўдодавага гнязда. Там яны і злавілі чалавека, які прышоў па наган.

На месцы ўдодавага гнязда дзядзька Кірэй знайшоў яшчэ нейкія паперы і невялікі бліскучы партсігар. Пасля выявілася, што незнаёмы аказаўся шпіёнам з-за мяжы. Бліскучы партсігар, які нічым не здзівіў тады Кірэя, быў спецыяльным фотаапаратам.

Цікавая птушка, шэры чубаты ўдод!





# Н. В. ГОГАЛЬ

Нікалай Васільевіч Гогаль — вялікі рускі пісьменнік мінулага стагоддзя. Нарадзіўся ён 31 сакавіка 1809 года ў м. Сарочынцы, на Украіне. Памёр 4 сакавіка 1852 года.

У сваіх творах Гогаль з вялікай любоўю пісаў аб простым народзе і злосна высмейваў царскіх чыноўнікаў і памешчыкаў. Пушкін першы высока ацаніў творы свайго сучасніка Гогаля. Ён дапамагаў Гогалю і дружыў з ім.

Ніжэй мы змяшчаем вядомае выдатнае апісанне ракі Дняпра з аповесці Н. В. Гогаля „СТРАШНАЯ ПОМСТА“.

# ДНЕПР

Дзівосны Днепр пры ціхай пагодзе, калі вольна і плаўна імчыць праз лясы і горы поўныя воды свае. Ні зварухнецца, ні прагрыміць. Глядзіш, і не ведаеш, ідзе ці не ідзе яго велічавая шырыня; і здаецца, нібы ўвесь выліты ён са шкла, і нібы блакітная люстраная дарога, без меры ў шырыню, без канца ў даўжыню, бяжыць і ўецца па зялёнаму свету. Міла тады і гарачаму сонцу аглянуцца з вышыні і апусціць праменні ў холад шкляное вады, і ўзбярэжным лясам ярка адсвечвацца ў вадзе. Зялёнакудрыя! яны імкнуцца разам з палявымі кветкамі да вады і, нахіліўшыся, глядзяць у яе і не наглядзяцца, і не налюбуюцца светлым сваім выглядам, і ўсміхаюцца яму, і вітаюць яго, ківаючы галлем. У сярэдзіну-ж Дняпра яны не пасмеюць глянуць. Ніхто, апроч сонца і блакітнага неба, не глядзіць у яго, рэдкая птушка даляціць да сярэдзіны Дняпра. Раскошны! яму няма роўнай ракі ў свеце. Дзівосны Днепр і пры цёплай летняй ночы, калі ўсё засынае: і чалавек, і звер, і птушка, а бог адзін велічава аглядае неба і зямлю і велічава трасе сваю рызу. Ад рызы сыплюцца зоры; зоры гараць і свецяць над светам, і ўсе разам адбіваюцца ў Дняпры. Усіх іх трымае Днепр у цёмным улонні сваім; ні адна не ўцячэ ад яго — хіба патухне на небе. Чорны лес, пакрыты соннымі крумкачамі, і даўно разламаныя горы,

звіснуўшы, сіляцца закрыць яго хоць доўгім ценем сваім—дарэмна! Няма нічога ў свеце, што-б магло закрыць Днепр. Сіні, сіні, ходзіць ён плаўным разлівам і сярод ночы, як сярод дня, відаць за гэтулькі ўдалечыню, за колькі бачыць можа чалавечае вока. Ласкаючыся і тулячыся бліжэй да берагоў ад начнога холаду, дае ён па сабе срэбны струмень, які ўспыхвае, нібы палоса дамаскай шаблі; а ён, сіні, зноў-жа заснуў. Дзівосны і тады Днепр, і няма ракі роўнай яму на свеце! Калі-ж пойдуць гарамі па небе сінія хмары, чорны лес хістаецца да кораня, дубы трашчаць, і маланка, ломячыся між хмар, адразу асветліць цэлы свет,—страшны тады Днепр! Высокія хвалі грымяць, ударабочыся аб горы, і з бляскам і стогнам адбягаюць назад, і плачуць, і заліваюцца ўдалечыні. Так бядуе старая маці казака, выпраўляючы свайго сына ў войска: разгульны і бадзёры, едзе ён на вараным кані, узяўшыся ў бокі і паmаладзецку заламаўшы шапку; а яна, галосячы, бяжыць за ім, хапае яго за стрэмя, ловіць цуглі і ломіць над ім рукі, і заліваецца пякучымі слязамі.

Дзіка чарнеюцца паміж грозных хваляў абгарэлыя пні і каменні на выступіўшым беразе. І б'ецца аб бераг, узнімаючыся ўверх і апускаючыся ўніз, адзінокі човен. Хто з казакаў адважыцца гуляць у чоўне, у той час, калі разлаваўся стары Днепр? Відаць, яму не вядома, што ён глытае людзей, як мух.

**Пераклад А. Я.**



Апавяданне Я. ІВАНОВІЧА

Малюнкі А. ШАХРАЯ



# ПЛОТКА

Аднаго разу (было гэта на сенажаці ў сенакосную пару) Змітрок папрасіў у дзеда Нічыпара вуду. Нічыпар—спрактыкаваны, вядомы на ўсю аколіцу рыбак. Спачатку дзед аднекваўся і жартаваў. Відаць, шкадаваў сапсаваць кручок. А потым, калі Змітрок не адставаў з просьбамі, ён сказаў:

— Бяры. Ды не так сабе, пазабаўляцца. Сур'ёзна папрактыкуйся ў рыбацкай справе. Нядрэннае, можна сказаць, рамяство...

Узрадаваны Змітрок паімчаўся да рэчкі, што працякала тут, на сенажаці, крутою лукою.

На беразе ў гразкай купіне адшукаў чарвяка—прыманку, начапіў яго на кручок і закінуў вуду на сярэдзіну рэчкі. На вадзе павіс з сасновай кары паплавок. Дробныя хвалі ледзь яго калышуць. Змітрок згінаецца над вудзільнам і не зводзіць з паплаўка вачэй.

Раптам паплавок заметна стаў ныраць, а гібкае вудзільна ў руках задрыжала. Тады Змітрок па-рыбацку ірвануў да сябе і выкінуў на бераг вуду.

На шпільках ужо скошанай сенажаці заскакала з далонь велічынёю чырвонавокая плотка. На сонцы белая луска заблішчала серабрыстым блескам. Плаўнікі распінаюцца, мокры хвост ліпне да травы, а да слізкага, бялявага жывата клеяцца перасохшыя травінкі.

Змітрок схапіў рыбу рукамі і зняў яе з кручка. Быстрым поглядам акінуў берагі рэчкі. Навокал не было нікога. Тады Змітрок рыўком кінуўся ад рэчкі.

Сонца пякло горача і сенакосная работа была ў самым разгары. Калгаснікі складалі ў высокія стагі пахучае сена, варочалі пракосы нядаўна скошанага зялёнага мурагу. А дзяўчаты, што грэблі даўжэзны вал сена, на ўсё балота распявалі песні.

— От рыба! Сам злавіў...—захліпваючыся, закрычаў яшчэ здалёк Змітрок.

Правальваючыся аж па пахі між высокіх купін, ён падносіць рыбу да кожнага. Рыбай зацікавіліся ўсе. Некаторыя з касцоў клалі на зямлю косы і бралі рыбу ў рукі.

А Змітрок кожнаму расказваў:

— Але яна хацела ўцячы: так ірванула вуду! Але я затрымаў...

Плотка пераходзіла з рук у рукі. Скора яна захаўкала. Жабры пасінелі і разбухлі. Хвост і плаўнікі звузіліся і перасталі варушыцца. На далоні яна больш не трапяталася, не саскаквала на зямлю. Здавалася, яна захліпнецца.

І Змітраку прышло ў галаву, што рыбы дыхаюць толькі паветрам вады.

— Напаіць трэба,—парашыў ён і паімчаўся назад да рэчкі. Там палажыў поўмёртвую ўжо рыбу на далонь і спусціў у ваду. Плотка лягла бокам як нежывая.

Вада ля берагу была спакойнай і светлай. Праз яе відаць бялявае мелкае дно. На ім, як у крывым люстры, гушкаецца ламаны цень рыбы. Змітраку відаць, як варушацца жабры: вада струменчыкам цягнецца ў разяўлены рот і хутка выліваецца праз набухшыя цёмнай крывёю жабравыя языкі.

„Яшчэ-б хвіліну, дык і каюк“,—падумаў Змітрок і ўзрадаваўся сваёй здагадцы, праз якую так лёгка збавіў ад смерці плотку.

Раптам ад лёгкага ветру па вадзе прабеглі дробныя хвалі. Скрануліся даўгія водарослі. Яны ледзь скалыхнулі плотку. Змітраку здалося, нібы жабры сталі варушыцца хутчэй, а чырвонаватыя вочы праясніліся і нават заварушыліся. Расшырыўся хвост і выпрасталіся плаўнікі. Яна стала так, што вось-вось гатова страпянуцца і пырснуць у цёмнае дно рэчкі.

Змітрок таропка падняў да кален штаны і, прыгінаючыся, каб не падаў на ваду цень, ступіў у рэчку. Ціхімі шагамі падкраўся да плоткі. Ужо закасаная па локаць рука знікла ў вадзе. Адна секунда, і аджыўшая рыба зноў будзе трапятацца ў пальцах. Але было позна.

Плотка вільнула шырокім хвастом, мільганула чорнай спінаю і толькі па вадзе прабеглі віруючыя хвалі.

У Змітрака ўпалі з рук закасаныя да кален штаны і павіслі на вадзе. Ён стаяў нерухома, бездапаможна апусціўшы рукі. Раптам, нібы апамятаўшыся, узмахнуў рукамі і хутка зашагаў на сярэдзіну рэчкі.

Вада разбівалася аб голыя калені, і навакол разляталіся пеністыя пырскі. Закасаныя па локці рукі ён глыбока запускаў у дно, доўга там разводзіў імі ў бакі і прыгаршчамі выносіў на паверхню ваду. Вада вылівалася праз пальцы і ён разгублена глядзеў на пустыя далоні. Ужо халодная вада пачала займаць да пояса і мачыць падол рубашкі, а ён не спыняецца, заходзіць усё глыбей і глыбей.

Раптам агляну ўся і спалохана ўздрыгануў. На беразе стаяў Нічыпар і ў адной руцэ трымаў даўжэзны пук вудзільнаў, у другой— вядзерца. Ён здзіўлена паціскаў плячыма і разводзіў рукамі.

Работа Змітрака абарвалася, і ён, апусціўшы вочы, павольна пацягнуўся да берагу. На твары яго выступіла сарамлівая ўсмешка, з мокрай па грудзі адзежы ручаямі цадзілася вада.

— Рыбка ў рацэ, ды не ў руцэ,—смяяўся на беразе дзед-рыбак і разгладжваў рукою шырокую, як лапату, чорную бараду.





# ЧОБАТЫ



КАЗКА

Малюнкі К. ГЕДДА

Жыў на свеце бедны селянін. Была ў яго старая хатка і сабака Лыска. Аднаго разу ў селяніна не стала чаго есці. Бядуе чалавек, думае, дзе яды дастаць. І вось падазваў ён да сябе сабаку ды кажа яму:

— Ідзі, Лыска, у лес, можа дзе зайца зловіш, тады згатуем страву і паснедаем.

Пабег Лыска ў лес. Бяжыць, аж насустрач яму воўк ідзе. Спалохаўся сабака ды кажа сам сабе:

— Вось дзе мне канец!

А воўк недачуў, паглядзеў скоса на сабаку і запытаў:

— У-у, дык гэта ты шавец?

Сабака падумаў і смела адказаў:

— Так, так, браце, я шавец!

— А-га! Калі-ж ты шавец,—сказаў воўк,—то пашый мне чобаты, а то я свае лапы пазбіваў бегаючы, вельмі-ж баляць.

— Добра,—кажа сабака,—толькі трэба, каб ты мне дастаў шчаціннe на дратву.

— А дзе-ж яго ўзяць?—пытае воўк.

— А вось,—кажа сабака,—прыцягні мне якое свінчо, дык будзе і шчаціннe.

Пабег воўк, прывалок неўзабаве сытага парсючка ды пытае ў сабакі:

— А калі-ж прыйсці па чобаты?

— Не раней як праз тыдзень прыходзь.

Мінуў тыдзень. Прыходзіць воўк да сабакі і пытае:

— Ну як, ці гатовы мае чобаты?

— Не,—кажа сабака,—не гатовы, трэба мне яшчэ шкуру дастаць.

— А дзе-ж мне яе ўзяць?

— Гэ, клопат вялікі,—кажа сабака,— прыцягні мне каня ды прыходзь праз тыдзень.

Прывалок воўк каня. А сабака тыя часам ужо даядаў парсючка, ды яшчэ гаспадара свайго даволі надзяліў мясам. Цяпер сабака пачаў есці каня. Ён паправіўся за гэты час, падужэў, і перастаў баяцца ваўка.

Мінуў яшчэ тыдзень. Прыходзіць воўк і пытае:

— Ці гатовы мае чобаты?

— А як-жа, браце, гатовы,—кажа сабака і падае ваўку тыя капыты, што з каня паздзіраў.

Узрадаваўся воўк, шчыра падзякаваў сабаку і пабег у вёску. Там ён схапіў на вуліцы парася; надзеў капыты на лапы і сам сабе думае: „Цяпер мяне ніхто не дагоніць“.

А ў гэты час парася пачало так моцна пішчаць, што з усіх хат людзі павыбегалі: хто з калом, хто з мешалкаю, а хто і з качаргою, ды давай біць ваўка. Убачыў воўк, што бяда блізка, паскідаў з лап капыты, ды наўцёкі. Ледзьве вyратаваўся.

Прыбег ён да сабакі ды кажа:

— Ты мяне ашукаў! Я цябе разарву!

А сабака спакойна адказвае воўку:

— Пачакай, не злуй, браце, бо яшчэ невядома, хто каго асіліць—ці ты мяне, ці я цябе? Лепш давай вайну распачнем: ты са сваім войскам прыдзеш, а я са сваім, і тады будзе відаць, хто з нас дужэйшы.

— Добра,—сказаў воўк і пабег у лес збіраць войска.

Пазваў воўк мядзведзя і лісіцу і папрасіў іх быць у яго ваякамі. Яны ахвотна згадзіліся і разам з воўкам прышлі ў назначанае для вайны месца. Селі, чакаюць сабакі. А сабака тым часам пабег у вёску і пазваў свайго сябра—чорнага сабаку з белаю лапінкаю на баку. Потым ён паклікаў да сябе яшчэ ката і пеўня, і ўсе разам пайшлі супроць воўка.

А воўк чакае не дачакаецца сабакі з яго войскам. Вось ён і кажа мядзведзю:

-- Узлезь ты, кумок, на дрэва, ды пабач, ці не ідзе сабака са сваім войскам.

Узлез мядзведзь на высокі дуб, прыгледзеўся ды кажа:

— Ідзе! Ідзе! Але я, мае вы небажаткі, далоў не злезу, бо бачу вельмі-ж страшнае войска. Вось у аднаго ваякі шабля вісіць на баку!

А гэта быў сабака з белаю лапінкай.

— А другі ваяка ідзе і гострую піку нясе!

А гэта ішоў кот, падняўшы хвост.

— А трэці ідзе ды крычыць: „Давайце іх сюды! Давайце іх сюды!“

А гэта быў певень.

Воўк як пачуў гэта, дык адразу ў куст схаваўся, а лісічка ў мох зашылася, толькі кончык хвосціка наверсе астаўся.

Прышоў сабака са сваім войскам. Паглядзеў, панюхаў,—няма нікога, толькі лісічын хвосцік відаць з-пад моху. Зірнуў кот на хвосцік, падумаў што гэта мышка, ды цап яго зубамі! А лісічка спалохалася, падумала, што ёй тут смерць будзе. Яна выскачыла з-пад моху ды наўцёкі.

А певень, як толькі ўбачыў лісічку, дык падумаў, што яна хоча яго схапіць, ды са страху скочыў на той дуб, дзе мядзведзь сядзеў.

Мядзведзь спалохаўся пеўня, скінуўся з дуба далоў і забіўся насмерць.

А кот, зірнуўшы на мядзведзя, скочыў са страху на той куст, дзе сядзеў воўк. Тут ужо воўк зусім перапалохаўся, выскачыў з куста ды ўцёк далёка ў лес.

Лыска са сваім войскам наеліся мядзведжага мяса, і ўсе разам пабеглі назад дадому.

Запісала **Канстанцыя Гудзіменка**
в. Міхалкі, Нараўлянскага р-на.





# Рэбяты і качаняты

Апавяданне М. ПРЫШВІНА

Маленькая дзікая качачка чыранка-свістунка адважылася нарэшце правесці сваіх качанят з лесу, міма вёскі, у возера на волю. Вясною гэтае возера далёка разлівалася, і надзейнае месца для гнязда можна было знайсці толькі вярсты за тры на купіне, у балотным лесе. А калі вада спала, прышлося зноў варочацца ў возера.

Каля кузні, пры пераходзе праз дарогу, качка пусціла качанят уперад, а сама ішла ззаду і наглядала за імі. Вось тут іх убачылі рэбяты і закідалі шапкамі. Увесь час, пакуль яны лавілі качанят, маці, страшна усхваляваная, бегала за імі з разяўленай дзюбай, або пералятала ў розныя бакі на некалькі шагоў. Рэбяты толькі былі сабраліся ўслед за качанятамі злавіць і матку, але тут я падышоў.

— Што вы будзеце рабіць з качанятамі?— строга запытаў я ў рэбят.

Яны струсілі і адказалі:

— Пусцім.

— То-та што „пусцім"!—сказаў я вельмі сярдзіта.—Навошта вам патрэбна было іх лавіць? Дзе цяпер маці?

— А вунь сядзіць!—хорам адказалі рэбяты. І паказалі мне на блізкі ўзгорак парнага поля, дзе качачка сапраўды сядзела з разяўленым ад хвалявання ротам.

— Жыва,—загадаў я рэбятам,—ідзіце і вярніце ёй усіх качанят.

Яны нібы нават і зарадваліся ад майго загаду ды пабеглі з качанятамі на ўзгорак. Маці адляцела крыху, і, калі рэбяты пайшлі, кінулася ратаваць сваіх сыноў і дачок. Па-свойму яна ім нешта сказала і пабегла да аўсянага поля. За ёю пабеглі качаняты— пяць штук. І так па аўсяным полі, каля вёскі, сям'я зноў стала прабірацца да возера.

Радасна зняў я шапку, і, памахаўшы ёю, крыкнуў:

— Шчаслівай дарогі, качаняткі!

Рэбяты з мяне засмяяліся.

— Што вы смяіцёся, дурненькія?—сказаў я рэбятам.—Думаеце так-то лёгка трапіць качаняткам у возера? Знімайце жыва ўсе шапкі і крычыце:

„Шчаслівай дарогі!"

І тыя-ж самыя шапкі, запыленыя на дарозе пры лоўлі качанят, узняліся ўверх; усе разам закрычалі:

— Шчаслівай дарогі, качаняткі!



# НАШЫ ЗНАЁМЫЯ

А. Якімовіч

I

Му-у! кароўкі зараўлі,—
Мы на пасбішчы былі,
Елі смачную траву—
Асаку і мураву,—
А цяпер дамоў прышлі,
Малачка вам прынyслі.

II

Гэй, мой кося, гэй мой сівы,
Быстраногі, доўгагрывы!
Галавою страсяні,



Капытамі зазвіні,
І далёка, мілы мой,
Паімчымся мы з табой.



III

Кучаравыя авечкі
Аддыхаюць каля рэчкі:
Цяжка ўлетку ім хадзіць,
Футра цёплае насіць.



IV

Я—свіння. Завуся дзюдзя,
І чамусьці усе людзі
Лічаць бруднаю мяне.
Ды не праўда гэта, не!
Хто не верыць—паглядзіце:
Ці-ж мы брудныя—скажыце?



V

Куры-гусі, куры-гусі,
Што вы ходзіце па лузе?
Вы, гультайкі, як відаць,
Развучыліся лятаць.

VI

Нас зусім, рэбяткі, трошкі:
Пяць кацятак, адна—кошка.
Дружна, згодна мы жывём,
Малачко з талеркі п'ём,
А таксама дні і ночы
За мышамі пільна сочым.



VII

Я сяджу на ланцугу,
Вашу хату сцерагу.
Калі-ж, дзеткі, з вас мяне
Хто дарэмна закране,
Дык таго, браткі, магу
Укусіць я за нагу





# ЖАБА

## КАЗКА

Аблюбаваў дзед каля рэчкі мясцінку для гароду. Стаў капаць і рабіць градкі. Капаў ён, капаў і натрапіў на нару. А ў той нары жыла тоўстая старая жаба-рапуха. Выгнаў дзед жабу з нары, а нару засыпаў зямлёю ды і нагою яшчэ прытаптаў.

Праз нейкі час зазелянела дзедава гародніна: капуста, бурачкі, моркаўка, зацвіў мак. Даглядае дзед свой гарод, палівае яго і цешыцца: „вось, думае, слаўная гародніна вырасце“.

А жаба тымчасам аж учарнела ад злосці і ўсё думае, як адпомсціць дзеду за сваю нару.

Думала яна, думала і нарэшце прыдумала: „павязе дзед гародніну дадому, а я вазьму ды воз яму перакулю“...

Прышла ўраджайная восень. Сабраў дзед сваю гародніну, паклаў на воз і едзе. А жаба забегла наперад, стала ў каляіне і надзьмулася, як бочка. Конь натапырыўся і баіцца ісці, храпе, капытамі аб зямлю б'е. Папудзіў дзед жабу пугай, а яна яшчэ больш надзьмулася і завохкала.

Думаў, думаў дзед, што зрабіць з жабай, і прыдумаў.

Махнуў на каня пугай, таргануў лейцамі, і конь рушыў наперад, а раздушаная жаба асталася ў каляіне.

Запісана ў калгасе „Асвета“ Клічаўскага раёна **С. Каўшыркам.**





# БЕГЕМОТ

Жывуць бегемоты ў рэках і азёрах Афрыкі.

Дарослы бегемот мае моцныя, шырокія лёгкія. можа доўга ныраць, хадзіць па дне і не вы-ць з вады. Дзіцянё бегемота садзіцца на шыю кі і не расстаецца з ёй, пакуль не вырасце. ці кожную хвіліну выплывае наверх, бо дзі-ё яе доўга аставацца ў вадзе не можа.

алююць на бегемотаў часцей за ўсё на сухой лі. Паляўнічы падкрадваецца блізка да беге-а і кідае ў яго кап'ё, да якога прывязана вя-ка з паплаўком. Паранены і напалоханы беге- кідаецца ў ваду і спяшаецца схавацца. Але ер ён не ўцячэ ад паляўнічага: паплавок плыве ед за ім і паказвае паляўнічаму, дзе бегемот. раз некалькі гадзін паляўнічы едзе ў чоўне хаць бегемота.

Паранены бегемот за гэты час аслабее, спячэ крывёю, да яго можна пад'ехаць і выцягнуць на бераг. Але часта паранены звер, сабраўшы астатнюю сілу, разбівае ўдарамі клыкоў човен, забівае і паляўнічага.

Маленькіх бегемоцікаў ловяць пасля таго, як заб'юць іх матку. У няволі бегемоцікаў кормяць кароўім малаком. Бегемоцік кожны дзень высасвае малако ў пяці кароў!

Каб пазнаць голас бегемота, даволі пачуць яго толькі адзін раз. Ні адна жывёла не крычыць так моцна, як бегемот. Сцены дрыжаць у памяшканні Заапарка, калі бегемот захоча пахваліцца сваім голасам. Але робіць ён гэта вельмі рэдка.

У СССР ёсць два бегемоты. Адзін, дарослы, жыве ў Ленінградскім Заапарку, другі, малады, чатырохгадовы „Антон"—у Маскоўскім.

СКРЫ ІЛЬІЧА
РГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКОМАСВЕТЫ
ЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА"

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ АКЦЯБРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

ЧЭРВЕНЬ 1937 г. № 6

ЦАНА 30 кап.

049

# ЗАГАДКІ, ФОКУСЫ І ЗАБАВЫ





## ЦІ МНОГА НАЛАВІЎ?

Здаецца, што рыбак нічога не злавіў. Але гэта не так. Ён злавіў тры вялізныя рыбы. Знайдзіце іх на гэтым малюнку.

## ТРЫ ТАЎСЦЯКІ

Які з гэтых трох таўсцякоў самы большы.
—Зразумела, верхні,—скажа кожны. А вось праверце, ці так гэта?

## ТРЫМА ЛІНІЯМІ



Разрэжце гэты малюнак трыма простымі лініямі на шэсць частак так, каб у кожнай частцы было па адной свінні.

## ВЫЙДЗІ З ХАТЫ

— Хочаш,—сказаў Вася,—я складу твае рукі так, што ты не зможаш выйсці з хаты, не разнімаючы іх.

— Глупства!—адказаў я.—Я-ж на нагах хаджу, а не на руках.

Мы паспрачаліся. Вася склаў мае рукі вакол ножкі вялікага стала і кажа:

— Ну, выйдзі.

Не разнімаючы рук, я не мог вызваліцца ад стала. А са сталом я не мог выйсці з хаты.

## ПАРУСНІК



Вазьмі верхнюю частку каробкі ад запалак, прымайструй да яе калёсікі з тоўстай паперы на іголачных воськах, потым прымацуй папяровы парус на тоненькай мачце.

Паруснік гатоў.

На гладкай дарозе пры ветранай пагодзе паруснік хутка паімчыцца ўперад.



## АДКАЗЫ НА ЗАГАДКІ з № 4

1. Мяч. 2. Барана. 3. Гром. 4. Трактар. 5. Ягада. 6. Жыта. 7. Снег і вада. 8. Яма. 9. Невад. 10. Каса. 11. Венік.

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ. Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА. Адрас рэдакцыі: Менск, Дом Друку.

Друкарня імя Сталіна. 10.000 экз. Зак. № 766. Уп. Галоўлітбела № 353.